© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

У нумары: ДЗЕЙНАСЦЬ ПАРТЫЗАН | БАЦЬКА І СЫН | „МАЛАНКА“


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 25 (486) | ГОД X | 20 ЧЭРВЕНЯ 1965 ГОДА | ЦАНА 60 гр.


## Спадчына

Ад веку мы спалі, і нас разбудзілі, мы знаем, што трэба рабіць. Так пачынаўся гімн Грамады. Так, па сутнасці, пачаўся і ўвесь грамадаўскі рух. Пачаўся ён ад усведамлення, што далей спаць нельга. У чэрвені 1925 года прыняў ён арганізацыйныя формы, уліўся ў шырокую магутную раку змагання за чалавечыя правы.

Самавызначэнне народаў. Міжнародная салідарнасць працоўных. Сялянска-рабочы ўрад. Зямля сялянам без выкупу. 8-гадзінны рабочы дзень. Свабода сходаў, друку і слова. Бясплатнае навучанне. Родная мова ў школах. Поўная свабода пашырэння культурна-асветнай дзейнасці ў роднай мове. Роўныя правы для ўсіх грамадзян, незалежна ад веры ці нацыянальнасці.

Вось асноўныя лозунгі праграмнай дзейнасці Грамады. Характэрнымі рысамі ў іх — рэвалюцыйнасць, нацыянальная годнасць і інтэрнацыяналізм. Гэта шляхаводны сцяг Грамады. Пад ім прайшла яна слаўную дарогу і залатымі літарамі ўпісалася ў гісторыю рэвалюцыйнай барацьбы.

Мы, пакаленне народнай Польшчы, якому ўсе тыя правы, за якія змагаліся ў рэвалюцыйных радах нашы бацькі, дасталіся як натуральная складовая частка самой істоты народаўладства, з вялікім гонарам ушаноўваем саракавую гадавіну з дня нараджэння Грамады, ушаноўваем традыцыі яе і ўсіх тых сяброў яе, якія, нягледзячы на зменлівасць лёсу, паслядоўна змагаліся за мэты, якія паставіла перад імі Грамада. Мы ганарымся тым, што можам сябе называць спадчыннікамі Грамады, што нязбытныя мары, якімі былі ў буржуазнай дзяржаве ідэі Грамады, прынялі цяпер, у новых грамадскіх умовах, канкрэтныя кшталты.

Ажылі нашы вёскі. З кожным годам узрастае дабрабыт нашых сялян. Беларуская моладзь атрымала аванс, які нашы бацькі нават у найсмялейшых снах не маглі бачыць. Няма хіба ў нашай краіне такой галіны жыцця, дзе б не працавалі выхадцы з нашых вёсак. Атрымала грамадзянства і беларуская мова. Яе вывучае на Беласточчыне звыш дзесяці тысяч школьнікаў. На ёй выдаем кніжкі, друкуем газету, карыстаемся ў грамадскім жыцці. Ды ці аб усім успомніш! Факт застаецца фактам — няма ў нас ніякіх перашкод для поўнага развіцця беларускага насельніцтва. Калі яшчэ не ўсё як трэба наладжана, дык гэта, у першую чаргу, ад нас саміх залежыць.

Беларус стаўся раўнапраўным грамадзянінам сваёй краіны. Гэтым мы асабліва ганарымся. І таму, урачыста адзначаючы саракагоддзе з дня ўтварэння Беларускай сялянска-работніцкай Грамады, святкуем адначасова і перамогу сацыялістычных перамен у нашай краіне, перамен людзей абуджаных.



Браніслаў Тарашкевіч. Заснавальнік і старшыня Цэнтральнага Камітэта Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Пасол сейма. Прафесар універсітэта. У беларускім руху ўдзельнічаў ад 1908 г.

## БРАНІСЛАЎ ТАРАШКЕВІЧ

Гэта быў сын беднага селяніна з засценка Чарнулішкі Віленскай губерні. Як бацькі яго здабылі сродкі, каб вучыць сына — невядома. Браты яго адукацыі не атрымалі. Ён жа — гонар і надзея сям'і — паехаў у Вільню, паспяхова прайшоў іспыты і паступіў там у 2-ую гімназію.

У 1911 годзе Браніслаў Тарашкевіч ужо быў прыняты на гісторыка-філалагічны факультэт І-га Пецярбургскага універсітэта. У маі 1916 года ён выдатна завяршыў курс вучобы і атрымаў дыплом першай ступені. Пасля гэтага Тарашкевіча пакінулі пры універсітэце на падрыхтоўку да прафесарска-выкладчыцкай дзейнасці па кафедры рускай мовы і славеснасці. Неўзабаве ён стаў доктарам філалогіі.

Жыццё ў горадзе, які стаў калыскай рускай рэвалюцыі, сувязь з рэвалюцыйнымі коламі студэнцтва, з лепшымі прадстаўнікамі навуковага свету Расіі вельмі моцна ўздзейнічалі на маладога вучонага.

Аднак тады Тарашкевіч яшчэ далёкі быў ад разумення сапраўднага сэнсу падзей, якія адбываліся навакол.

У 1922 годзе напярэдадні выбараў у сейм быў створан «Блок нацыянальных меншасцей». Стварэнне яго ўжо было выяўленнем пратэсту супроць нацыянальнага прыгнёту і бяспраўя. І хоць гэты блок быў нетрывалы, ён змог паслаць у сейм групу сваіх дэпутатаў — быў створан беларускі дэпутацкі клуб сейма. Сярод іншых дэпутатаў туды ўвайшлі С. Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла і П. Валошын — людзі, ужо шырока вядомыя ў Заходняй Беларусі, — а ўзначаліў яго Браніслаў Тарашкевіч.

Тады Тарашкевіч яшчэ верыў, што ўдасца вырашыць асноўныя супярэчнасці, і перш за ўсё аграрнае пытанне, у рамах буржуазна-памешчыцкай Польшчы, на шляхах пагаднення з яе кіруючымі коламі.

Але неўзабаве яго погляды істотна змяніліся.

Другі з'езд польскіх камуністаў, які адбыўся ў 1923 годзе, прыняў за асноўныя палажэнні ленінскі лозунг аб праве нацый на самавызначэнне і патрабаванне аб раздзеле памешчыцкіх зямель.

У канцы 1923 года ў складзе польскай Кампартыі была ўтворана тэрытарыяльная арганізацыя — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Стварэнне КПЗБ дало новы штуршок рэвалюцыйнаму і нацыянальна-вызваленчаму руху. Па прыкладу польскіх рабочых, якія ў лістападзе 1923 года ў Кракаве ўзяліся за зброю, сяляне Заходняй Беларусі пачалі ўступаць у партызанскія атрады. У 1923—1924 гадах «ускраіны» Польшчы былі ахоплены пажарам сапраўднай партызанскай вайны. Гэтыя падзеі рабілі велізарны ўплыў на перадавую частку інтэлігенцыі Польшчы і Заходняй Беларусі.

Сам Тарашкевіч і дэпутаты сейма, якія групаваліся вакол яго, усё выразней бачылі, што ніякія пагадненні з кіруючымі коламі не памогуць выбавіць з галечы і нястач асноўную масу працоўных Заходняй Беларусі. Тарашкевіч у гэты час ужо настойліва шукае новых шляхоў. У яго прамовах з трыбуны сейма ўсё мацней пачалі гучаць рэвалюцыйна-дэмакратычныя ноты.

Улетку 1924 года ў сеймавым клубе (фракцыі) дробнабуржуазнай сялянскай партыі «Вызваленне» адбыўся раскол. З «Вызвалення» выйшла група дэпутатаў — С. Ваявудскі, А. Фідаркевіч, С. Балін і іншыя. Яны ўзначалілі «Незалежную сялянскую партыю» (НПХ), якая стаяла за рабоча-сялянскі ўрад, за раздзел памешчыцкіх зямель без выкупу, за права нацый на самавызначэнне. Па прыкладу польскіх таварышаў, група дэпутатаў на чале з Тарашкевічам таксама ўсё часцей пачала ў выступленнях падтрымліваць Камуністычную фракцыю.

Вясною-летам 1925 года сакратар ЦК КПЗБ П. Корчык і М. Арэхва ў Вільнюсе вялі перагаворы з Тарашкевічам і Рак-Міхайлоўскім. Крыху пазней Тарашкевіч удзельнічаў у нарадзе ЦК КПЗБ у Гданьску.

У гэтым жа годзе адбылася яшчэ адна знамянальная сустрэча. Аднойчы да Тарашкевіча, калі ён ішоў па калідоры сейма, падышла Ф. Цыгельніцкая (у той час яна кіравала Цэнтральнай сувяззю ЦК КПЗБ) і паведаміла, што партыя даручыла ёй запрасіць на канспіратыўную кватэру, дзе будзе чакаць Янка Купала. Там ад яго Тарашкевіч шмат чаго ўведаў пра жыццё ў Савецкай Беларусі.

(Працяг на стар. 3)

## Святкаванне Грамады

Як мы ўжо інфармавалі, у сувязі з саракагоддзем заснавання Беларускай сялянска-работніцкай Грамады, 26 чэрвеня г. г. у Кінатэатры Прафсаюзаў у Беластоку адбудзецца ўрачыстая акадэмія, прысвечана гэтай знамянальнай даце. Праграма акадэміі прадбачвае даклад і мастацкую частку. Запрашэнні для членаў БГКТ распаўсюджвае ГП БГКТ.






## Адкрыццё Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага

6 чэрвеня г. г. у Гарадку адбылося ўрачыстае адкрыццё Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага, які, як мы ўжо неаднаразова пісалі, быў пабудаваны пры вялікім укладзе грамадскай працы мясцовага насельніцтва.

Урачыстаць была спалучана са святкаваннем 20-годдзя Войскаў аховы пагранічча і святам людовым.

Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел: сакратар ЦК ПАРП, пасол Беластоцкай зямлі Уладзіслаў Віха, сакратар ВК ПАРП Сэрг'юш Рубчэўскі, пасол, старшыня Камітэта пабудовы помніка Кастусю Каліноўскаму Станіслаў Юхніцкі, дырэктар дэпартамента Міністэрства культуры Чэслаў Калужны, намеснік старшыні ВРН Эдмунд Шчапанскі і іншыя госці.

Урачыстае адкрыццё Дома зрабіў сакратар ЦК ПАРП Ул. Віха.

У наступным нумары змесцім фотарэпартаж з урачыстасці ў Гарадку.

(рл)



## КОНКУРС
### Успаміны грамадаўцаў

У сувязі з саракагоддзем Беларускай сялянска-работніцкай Грамады, рэдакцыя «Нівы» аб'яўляе конкурс на ўспаміны былых грамадаўцаў.

Найлепшыя працы будуць апублікаваны ў «Ніве» і выданнях ГП БГКТ, аўтары іх атрымаюць належны ганарар. Апрача таго прадбачваюцца каштоўныя ўзнагароды.

Тэрмін дасылання прац да 31 снежня г.г.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

**(ВЫТРЫМКІ З ГАЗЕТ І ІНШЫХ ДАКУМЕНТАЎ ПЕРЫЯДУ ДЗЕЙНАСЦІ ГРАМАДЫ)**

Тое. што даўно прадбачылася і чакалася, нарэшце адбылося — раскол сярод беларускіх дэпутатаў у Польскім сейме. 4 дэпутаты (Тарашкевіч. Рак-Міхайлоўскі, Мятла і Валошын) выступілі з адзінага дагэтуль Беларускага пасольскага клуба і ўтварылі новы пад назваю Беларуская рабоча-сялянская грамада.

...Як складуцца ў бліжэйшым часе адносіны паміж новай беларускай фракцыяй сейма і камуністамі, пакуль што невядома. Трэба думаць, што яны будуць падобны да ўзаемаадносін камуністаў і «Незалежнай сялянскай партыі» Ваяводскага: супрацоўніцтва без фармальнага аб'яднання.

У кожным разе раскол Беларускага пасольскага клуба і адкрытае ўступленне часткі яго былых сяброў на рабоча-сялянскі шлях, шлях змагання за ўладу рабочых і сялян ёсць паваротны пункт у гісторыі сеймавага прадстаўніцтва Заходняй Беларусі. Падзеі ў Заходняй Беларусі за апошнія гады развіваліся ў такім кірунку, што беларускае сеймавае прадстаўніцтва ўсё больш і больш траціла беспасрэдную сувязь з народнымі масамі, іх імкненнямі і надзеямі. Цяпер гэта сувязь аднаўляецца і замацоўваецца. («Савецкая Беларусь» № 144/1443, 30 чэрвеня 1925 г.).

---

Вызваленне ўсяго працоўнага народа з-пад ярма капіталу і нацыянальнага ўціску — гэта агульная мэта і супольная справа сялян і работнікаў, здзейсненне гэтага магчыма толькі ў цесным саюзе сялян і работнікаў.

Працоўная інтэлігенцыя ў сваёй лепшай і здаравейшай частцы павінна прылучыцца да такога саюзу сялян і работнікаў, знаходзячы тут шырокі грунт да прылажэння сваіх творчых сіл.

(З праграмы БСР Грамады. Красавік 1926 г.).

---

Дарагія грамадзяне! Вітайма Грамаду і злучаймася ўсе ў Грамаду — першую шырокую зашчытніцу нашых правоў, упартую барацьбітку з ворагам працоўных вёскі і места — буржуазіяй за лепшую будучыню для нас. Кожны з нас прыглядзеўшыся да штодзённага нашага жыцця, разабраўшыся ў самых важных галінах яго, павінен сказаць, што заклік гэты правідловы.

...Многа вёсак і мястэчак нашага краю ўжо зразумелі, дзе праўда, і арганізавалі гурткі Беларускай сялянска-работніцкай грамады, якія смела заяўляюць аб усіх крыўдах нашага жыцця моцным голасам Грамады. З гэтым голасам павінны будуць лічыцца тыя, хто марнуе наша жыццё, і чым болей будзе гэтых галасоў Грамады, тым хутчэй мы здабудзем належныя нам правы. Дык, каб не застацца ад пайшоўшых ужо ў Грамаду нашых братоў, каб дапамагчы ім у барацьбе за лепшую будучыню для нас, хутчэй усе як адзін у Грамаду, — мужчыны і жанчыны! Памятайце, што гэты час найдаражэйшы ў жыцці нашага народа. Калі празяваем гэты момант, то на многа часу пакінем панаваць над намі нэндзу, здзекі, насмешкі, паняверку і бяду. Ні на мінуту не забывайце, што нам адчыняюцца дзверы для лепшай будучыні. Пара прачнуцца і нам і па прыкладу іншых прыгнечаных народаў моцна грамадой заявіць аб належных нам правах.

Усе да працы! Усе ў Грамаду! Хутчэй арганізавацца.

Няхай жыве сялянска-работніцкі ўрад!

Няхай жыве саюз сялян і работнікаў усіх краёў!

Няхай жыве Грамада — вялікі чалавек!

Камітэт Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

(з закліку мясцовых камітэтаў БСРГ да рабочых і сялян уступаць у Грамаду. Май 1926 г.).

Паведамляем таварышаў сяброў, што на наш гурток прыходзіць цяпер сільны ўраган ад паліцыі. Чуць не кожны дзень прыходзіць паліцыя, пішуць на нас пратаколы і да таго яшчэ страшаць нас турмой.

Просім таварышаў сяброў дапамагчы нам у гэтай справе як найскарэй, бо няма як жыць ад паліцыі.

(з заявы членаў гуртка БСРГ вёскі Крынуль Цэнтральнаму сакратарыяту БСРГ. 24 кастрычніка 1926 г).

---

Лічба сяброў Грамады: а) у чэрвені 1926 г. — 950 асоб, б) у верасні — 45 000, в) у лістападзе — 68 000.

У момант разгрому, 15 студзеня 1927 г., — 100 000 асоб.

У момант зачынення працы і ліквідацыі сакратарыята Грамады, 1 лютага 1927 г., — 117 000 асоб.

(са звесткі генеральнага сакратара БСРГ М. Бурсевіча. 1928 г.)

# АД ВЕКУ МЫ СПАЛІ

Ад веку мы спалі і нас разбудзілі,
Мы знаем, што трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Што трэба буржуяў пабіць.

Што гэта за марная доля такая,
Бяз хлеба, бяз грошай працуй,
Усюды ганяюць, усюды смяюцца,
Ну проста хоць крыкні — ратуй!

Смяюцца над намі багатыя людзі,
Здаецца панамі іх зваць.
Мы доўга цярпелі, цярпець больш не будзем
І пойдзем мы долі шукаць.

Мы дружна паўстанем з сярпамі, з касамі,
Прагонім з зямлі палачоў.
Няхай нас сустрэнуць палямі, лясамі
Грамады працоўных людзёў.

Тарашкевічу, (вул.) Свентакшыска, 28,5, Варшава, з Вільні.

(В) нядзелю пятага адбыўся павятовы з'езд Грамады ў вёсцы Стара-Беразова, Арлянскай гміны, Бельскага павета. Накіраваўшыхся на з'езд членаў (Грамады) паліцыя яўная і тайная не дапускала, арыштоўвала. Такім чынам, (на) з'езд удалося трапіць толькі 120 асобам. Вёска Стара-Беразова была акружана атрадамі пешай (і) коннай паліцыі ў колькасці 100 асоб пры сямі кулямётах. У часе працы з'езда банда паліцыянтаў (і) шпікаў у колькасці да 15 асоб пачала разгром памяшкання, выламваючы дзверы і вокны. Прадстаўнікі старосства (і) паліцыі не толькі не рэагавалі, але, наадварот, у часе ўчыненага гэтымі шпікамі пагрому паліцыя ўварвалася ў залу (і) пачала біць усіх членаў з'езда прыкладамі, шаблямі. Паліцыянты трымалі за рукі паслоў, пазбаўляючы іх свабоды руху і прадстаўляючы шпікам магчымасць здзекавацца над імі. Паслы Мятла і Валошын паранены. Апрача таго, з ліку ўдзельнікаў (з'езда) паранена звыш 50 асоб. Падрабязных звестак з месца, ці ёсць забітыя, да гэтуль не маем. Пасол Мятла заўтра раніцай будзе ў Варшаве.

Раман

(тэлеграма. Прынята 6 снежня 1926 г., 12 гадз. 8 мін.)

---

...Беларусаў не лічылі і не лічаць раўнапраўнымі грамадзянамі, і ім не даюць магчымасці вучыць сваіх дзяцей у роднай мове. Адміністрацыя і дзяржаўная паліцыя прымяняе для працоўнага беларускага народа масавы тэрор, катуючы і калечачы ні ў чым не павінных людзей толькі за тое, што яны беларусы і смеюць думаць не так, як думаюць польскія кіруючыя класы.

Аб абяцаных правах забыліся, і над краем гуляе дэспатызм абшарнікаў, якія лічаць беларускі народ за быдла.

...Няма ніякай надзеі, каб белы тэрор спыніўся. Усё паказвае на тое, што ён будзе ўсільвацца.

Прэса беларуская задушана, апрача падкупленай урадам. Ад 1922 г. зачынена ў Вільні больш 20 апазіцыйных газет.

...21 кастрычніка 1926 г. арыштавалі Макуліка Сымона з вёскі Алексічы, Мала-Берастовіцкай гміны, былога рэдактара «Народнай справы», а цяпер даверанyю асобу Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Каб перашкодзіць яго працы, пасадзілі яго ў турму: вымагаюць 12000 зл. залогу, што немагчыма выканаць. Тлумачыцца гэта тым, што сядзіць ён як рэдактар беларускай газеты.

...Уначы з 14 на 15 верасня 1926 г. у Саколцы на Фабрычнай вул., №20, дзе пражываў пасол Валошын, увайшла паліцыя, хочучы рабіць рэвізію. Гаспадыня дома Кастэцкая тлумачыла, што гэта кватэра пасла і што не можна нічога чапаць, бо яго цяпер няма. Але паліцыя, не звяртаючы ўвагі на пратэсты гаспадыні, забрала на пастарунак 2 валізы, становячыя маёмасць пасла.

...16 верасня 1925 г. адбыліся масавыя арышты ў ваколіцах Беластоку, Пружан, Бельска і Ваўкавыска. Самым старшым па ўзросту з арыштаваных быў 23 год, а малодшым — 14-гадовая дзяўчына. Здзекі паліцэйскіх пераходзілі межы: вешалі на жалезных палках, якія былі ўсунуты паміж скаванымі рукамі і каленамі, і білі жалезнымі палкамі па пятах, ламалі пальцы, улівалі па некалькі літраў вады ў нос і рот, акуналі галаву на доўгі час у сцюдзёную ваду. Ніякія просьбы ні паслоў, ні саміх арыштаваных не дапамаглі, і людзей скатавалі да паўсмерці.

(З пісьма пасла ў сейме ад БСРГ П. Мятлы члену англійскага парламента Артуру Шэпарду).

---

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

Здаецца, яшчэ і не спаў, а мяне хтосьці пачынае далікатна штурхаць.

— Уставай, юнак! — па-нямецку і добразычліва кажа чалавек.

Саджуся на лаву. У зале горача. Размарыла. Дзе я? Што са мной? Ніяк не магу прачнуцца.

— Табе на Аленштайн? — пытаецца стары.

— А-га...

— Поезд адыходзіць праз дваццаць хвілін.

З мяне сон як рукой зняло. Хапаю сумку.

— Паспееш, цябе абудзіў акурат у час.

— Дзякуй, бацька! Шчасліва вам даехаць!

— І табе таксама!

Улажу ў вагон. Ён без святла. Але што ў ім маладая і з карымі вачыма праваднiца, я такі разгледзеў. Усе лавы заняты, спыняюся ля шыбы, у праходзе.

У вагоне — мясцовыя жыхары. Едуць і эвакуіраваныя з Берліна. Усе жанчыны. Берлінцы апавядаюць пра жудасці бамбардзіроўкі сталіцы. Пляткараць, што Гітлера няма, яго быццам арыштавалі. Нібы фюрэра замяніў фельдмаршал Ромель і цяпер вайне хутка канец, бальшавікі і англічане фельдмаршала надта баяцца і адразу паддадуцца, а сама Амерыка не вытрымае. Слухаю дзіўную для мяне балбатню немцаў і сачу. Ля мяне чагосьці часта круціцца праваднiца. Спрабую раму — адчыняецца. Поезд ідзе кіламетраў сорак на гадзіну, скакаць можна. Толькі трэба ўціснуць галаву ў

36

плечы, калені ўцягнуць у жывот — перакулішся разоў сто на адхоне і ўсё. Ад акна не адыходжу.

Прыбываюць новыя пасажыры, праваднiца на іх не звяртае ўвагі, не правярае білетаў. Мітусіцца на праходзе, дваццаць разоў кранае мяне локцем, кожны раз просіць прабачэння, беспрычынна смяецца. Трымаюся за раменныя лямкі ад акна, трывожна і прагна лаўлю какетлівыя позіркі і бліскание зубоў немачкі.

Калі поезд прыбывае на месца, з вагона чамусьці вылажу неахвотна, з жалем, быццам нешта важнае камусьці не дагаварыў, цікавае не дасказаў.

Наступны пасажырскі ідзе толькі вечарам. Вакзал у Аленштайне маленькі, баюся намазоліць усім вочы. Трэба недзе падзецца. Чытаю вывеску. «Пункт харчавання праязных брыгад чыгуначнікаў». Знаходжу шэфа, пляту, што я качагар, вазіў з брыгадай паравозы ў Данцыг і цяпер вяртаюся ў Гродзенскае дэпо, страшэнна згаладнеў. Невялічкі дабрадушны немчык з жывоцікам і чырвоным тварыкам ахвотна загадвае жанчыне мяне накарміць. Тая налівае вялізную місу гарачае стравы.

Ажыўлены баршчом, выходжу са сталовай і не ведаю, куды сябе дзяваць. Заглядаю ў піўную. За стойкай тырчыць тоўстая немка. Побач маладая мые посуд. Перад імі салдат трымае куфаль піва і штосьці апавядае. Салдат бледны, з забінтаванай шыяй, без вінтоўкі. Мусіць, уцёк са шпіталя і каратае час, пажыўляецца.

У піўную без прычыны не ходзяць. Прашу:

— Піва!

— Вам светлага ці цёмнага? — пытаецца ветліва старая.

Дык яно бывае рознае?!

— І таго, і таго...

Дзеўка ставіць мне на стол поўныя куфлі, вузлаватымі мокрымі рукамі дае рэшту.

Дзве жанчыны за буфетам настаўляюць вушы. Услухоўваюся і я.

— У рускіх — гэтак! — працягвае салдат. — На абед ставяць на стол гліняную місу гарэлкі і драўлянымі лыжкамі хлябаюць, як у нас суп!

37

— Майн гот! — ускрыквае маладзейшая.

— І дзеці? — удакладняе буфетчыца.

— Усе-е-е! — ажыўлена з іскрамі ў вачах запэўняе салдат і дапівае куфаль. — Пад Смаленскам сам бачыў!!!

— Жах!

Жанчыны толькі вохкаюць і напаўняюць куфаль.

А я сваё піць не магу. Ды пакідаць нявыпітым пельга. Праглынаю, як атруту. Ужо кружыцца галава. Тут яшчэ ад баек раненага разбірае смех. Салдат пачынае прасіць, каб я нешта пацвердзіў, падлізваецца. Устаю і выходжу.

Аднапавярховыя акуратныя домікі, агароджаныя металічнымі сеткамі. Кроны дрэў упарта супраціўляюцца ветру. У твар нясе востры снег. Плятуся без мэты.

Недалёка ад вакзала, за нізкім плоцікам, — з паўсотні рабочых з Усходу. Іх, мусіць, нядаўна вывелі з вагона, паставілі чакаць далейшага лёсу. З паднятымі каўнярамі хлопцы, захутаныя ў хусткі, у вышываныя ручнікі дзяўчаты сядзяць на драўляных скрынках, аблезлых чамаданах і баязліва патупваюць, нясмела жартуюць. Іх бесцырымонна і са здзекам разглядаюць вучні з ранцамі. Хтосьці з малых плюе на бліжэйшага рускага. Гэта вельмі падабаецца астатнім. Вучні адзін перад другім пачынаюць пляваць на людзей, потым — па камандзе, залпамі! Бедныя хлопцы і дзяўчаты збіваюцца ў грамаду, бездапаможна і пакрыўджана азіраюцца.

Выбіраюся на чыстае поле. Перад вачыма — піўная з салдатам, у вушах яшчэ гучаць яго словы. Там, ля беластоцкай шашы, была толькі невялікая група Міцькі Высоцкага. А мо' і праўда там цяпер усё дагары нагамі, я ж даўно не быў дома?!. Ужо не церпіцца. Хутчэй да сваіх! Мяне так разбірае, што не адчуваю холаду. Узбуджаны, бегаю ў полі да вечара. Тады вяртаюся на вакзал, купляю білет, адпраўляюся далей.

Гродна і Беласток немцы далучылі да Трэцяга Рэйху. Паміж гэтымі гарадамі і Прусіяй у раёне Шарфэнвізэ два разы поезд перасякае граніцу Польскага генерал-

38



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

